Cena 60 gr. Цана 60 гр



ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА - КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 42 (190) БЕЛАСТОК 18 КАСТРЫЧНІКА 1959 ГОДА ГОД IV



Ля Гайдакоўшчыны. Гайнаўскага павета.

Фота — П. ЧЭРНЯКЕВІЧ

Дасягненні нацыянальных меншасцей за 15 год

# ВЫСТАЎКА Ў КРАКАВЕ, КАНЦЭРТ — У ВАРШАВЕ

Дэпартамент культурна - асветнай працы і бібліятэк Міністэрства культуры і мастацтва 5 кастрычніка г. г. наладзіў канферэнцыю з прадстаўнікамі нацыянальных таварыстваў у Польшчы. Мэтай канферэнцыі было абмеркаванне арганізацыі выстаўкі народнага мастацтва і канцэрта найлепшых самадзейных мастацкіх калектываў нацыянальных меншасцей пражываючых у Польшчы.

З мэтай шырэйшага распаўсюджвання сярод польскага насельніцтва культуры нацыянальных меншасцей і паказу ўзаемнага ўплыву культур славянскіх народаў, у канцы першага квартала 1960 г. у Народным музеі ў Кракаве пачне працаваць выстаўка народнага мастацтва нацыянальных меншасцей, пражываючых у межах нашай краіны. На вялікай плошчы — звыш 300 кв м будуць размешчаны высокай мастацкай вартасці і аўтэнтычнасці экспанаты беларускага, украінскага, рускага, літоўскага і чэхаславацкага забытковага і сучаснага народнага мастацтва (народныя ўборы, вышыўка, дэкаратыўнае мастацтва, кераміка). З часткі экспанатаў будзе створана аб'язная выстаўка, якая наведае ваяводскія гарады Польшчы. Камісарам выстаўкі з'яўляецца мгр Марыя Валенская з кракаўскага музея.

У «Дні асветы, кнігі і друку» ад 3—17 мая 1960 г. у Палацы культуры ў Варшаве адбудзецца канцэрт найлепшых харавых, танцавальных і інструментальных самадзейных мастацкіх калектываў васьмі нацыянальных таварystваў у Польшчы (беларускага, украінскага, рускага, літоўскага, яўрэйскага, чэхаў і славакаў, нямецкага і грэцкага). Канцэрт будзе праведзены пад лозунгам: «Дасягненні нацыянальных меншасцей у галіне культуры на працягу 15-ці год Народнай улады ў ПНР». У Варшаву паедуць калектывы, якія зоймуць першыя месцы ў праведзеных таварыствамі Павятовых і Ваяводскіх аглядах, і якія ў асенне - зімовым перыядзе будуць мець на сваім ліку не менш 10-ці канцэртаў, праведзеных у сваім асяроддзі.

Мастацкія калектывы паедуць у Варшаву на тры дні. Апрача супольнага канцэрта ў Палацы Культуры, паасобныя калектывы будуць выступаць з поўнымі канцэртамі на эстрадах Варшавы.

В. Ш.

## ВЕЧАР УСПАМІНАЎ І ПАЖАДАННЯЎ

6 кастрычніка г. г. у сувязі з 50 гадавінай нараджэння і 35 гадавінай палітычнай дзейнасці старшыні Галоўнага праўлення Беларускага грамадска - культурнага таварыства, Уладзіміра Станкевіча, у памяшканні ГП БГКТ адбыўся таварыскі вечар, на якім актывісты Таварыства сустрэліся з юбілярам.

Сярод прысутных былі старыя дзеячы КПЗБ і «Грамады» — таварышы Уладзіміра Станкевіча па падполлю. Яны расказвалі аб пройдзеным шляху і звярталіся да маладых сяброў, каб яны з гордасцю ахоўвалі слаўныя традыцыі сваіх бацькоў, каб цвёрда ішлі па дарозе, якую пралажылі польскія і беларускія рэвалюцыйныя і прагрэсіўныя сілы.

Вечар прайшоў у надзвычай сардэчнай атмасферы. Юбіляру ўручана кветкі, шмат пажаданняў і зразумела спявалі «Сто лят».

(рл)

МАКСІМ ТАНК

## ШАПЭН

Каго ў Лазенках паўночнай парой,
У змрочных алеях, глухіх пералесках,
Каля апусцелых муроў каралеўскіх,
Нястомна шукае нямецкі канвой?

Мо' цень бегляца з-за дратоў Асвянціма
Уцякла ад смяротнай пагоні сюды?
Мо' знойдзены мсціўцаў народных сляды?
Не, каты прайшлі, не заўважыўшы, міма.

Ім трэба быў той, чые рукі жылі
У дыханні мільёнаў, няскораных сэрцах,
Хто на акрываўленай польскай зямлі
Народу свайму гаварыў аб бясмерці.

І вось акружылі Шапэна яны,
Прыкладамі ўдарылі ў бронзавы помнік,
І з арфы разбітай, з парванай струны
Маланкамі гукі рванулiся ў поўнач

Іх не заглушыў прагрымеўшы ўзрыў,
Што ўзняў аж да зораў граніт п'едэстала, —
Акорд за акордам зрываўся і плыў,
І сіла цудоўная ў іх нарастала.

І сёння ў Лазенках над кронамі дрэў,
Над новай свабоднай Варшавай, над краем,
Над светам, дзе бой за свабоду грымеў,
Жалобнага маршу акорды лунаюць.

17.X.1849 г. памер Фрыдэрык Шапэн, геніяльны польскі кампазітар.

# АПОШНІ НАВЕДВАЛЬНІК

Ён з'явіўся ў рэдакцыі калі я ўжо збіраўся адыходзіць.

— Гэта вы будзеце юрыст — звярнуўся ён да мяне.

— Так, сядайце, калі ласка!

Ён сеў і хоць стараўся выдацца спакойным, дрыжачыя пальцы яго рук здраджвалі, што ён падэнэрваваны.

— Скажыце, — прыступіў ён адразу да справы — што прадбачыць закон за бракан'ерства?

— За гэта можна зарабіць да двух год турмы.

— А калі хто мае аружжа без дазволу?

— Гэта справа яшчэ больш сур'ёзная. Як пашанцуе, дык і пяццю гадамі не выкруціцца.

— А за забойства чалавека? — як бы імкнучыся праверыць мае веды з крымінальнага права, пытаў далей мой наведвальнік.

— Гэта справа вельмі сур'ёзная — пачаў я.

— Але, калі хто палюе бесправна аружжам, на якое не мае дазволу і заб'е пры гэтым чалавека, дык і волас яму з галавы не зваліцца — кончыў ён за мяне.

— Вы жартуеце — заўважыў я — здзіўлены нечаканым вывадам.

— Якія там жарты — тут плакаць трэба — але я пэўна вам толькі галаву марочу — рыхтуючыся ўстаць сказаў наведвальнік.

— Нікольki, прадаўжайце, гэта вельмі цікава.

— Ну дык паслухайце. Ён задумаўся і на хвіліне маўчання пачаў свой расказ.

Непадалёку ад вёсак Кумялкі і Тшцянка, Сакольскага павета, раскінуліся цяністыя лясы. Як прыгожа там вясной. А сколькі усялякага звяр'я і птушак, хоць і колькасць іх з кожным годам памяншаецца. Бракан'еры бязлітасна вынішчаюць усё, што пападзе пад руку.

Так было на гэты раз.

— Мо' запалюем на дзікі — запрапанаваў Эдуард Шулеўскі Станіславу Занеўскаму, спаткаўшы яго ў нядзелю 7 красавіка 1957 года.

— Дык я ж не маю чым? — адказаў той.

— Прыдзеш разам з Бронкам, яго ж бацька мае дубальтоўку.

— А што, калі гаёвага чорт нанясе? — бараніўся Станіслаў, які не меў ахвоты ісці на паляванне, але не адважыўся адказацца ад гэтага перад сябрам.

— Ды кінь ты, гаёвы сядзіць, як мыш пад мятлой. Пачуе стрэлы — уцякаць будзе, каб самому ў мягкае месца свінца не злавіць. Я ж не першы раз — падбадзёрваў Шулеўскі таварыша.

У нядзелю, 14 красавіка было яшчэ цёмна, калі Браніслаў Занеўскі ўстаў і ціхенька, каб не збудзіць брата Віктара і яго жонкі Алёны — рыхтаваўся ў дарогу. Выпадкова стукнуў ботам аб падлогу.

— Ты чаго так рана ўскруціўся? — адазваўся Віктар.

— Пайду да Гіпаліта ў Мейскія Навіны, я яму абяцаў прыйсці — салгаў Браніслаў, адчуваючы, як робіцца яму няёмка — што ён лжэ.

На ўмоўленым месцы чакалі браты Эдуард і Казімір Шулеўскія. Яны трымалі на смычы двух жоўтых сабак, прывучаных да палявання на дзікі. Браты былі ўзброеныя ў дубальтоўкі. Побач стаяў Станіслаў Пабутка з нямецкім штуцэрам на плячы. Незадоўга падышоў і Сташэўскі з дубальтоўкай свайго бацькі. Пяць мужчын накіраваліся ў лес на пошукі слядоў дзіка.

(Працяг на стар. 3)

## Электрычныя мазгі

Электрычныя мазгі — гэта аграмадныя машыны вельмі складанай канструкцыі. Цяпер ва ўсіх краінах будуецца такія машыны. Адной з прыгажэйшых ёсць савецкая БЭСМ (скарачэнне назвы — хуткая электрычная лічыльная машына).

Машына паўстала ў Акадэміі Навук СССР. Стварыў яе калектыў вучоных на чале з акадэмікам Лебедзевым.

БЭСМ на працягу 1 секунды выконвае 7—8 тысяч матэматычных дзеянняў. Замяняе працу дзесяткаў тысяч рахункаводаў. Праз некалькі гадзін зробіць толькі аблічэнняў, колькі найлепшы рахункавод не зробіць праз усё сваё жыццё. Вопытны чалавек патрабуе 20 секунд, каб правесці адно дзеянне. Машына робіць гэта спраўней у 100 тысяч разоў.

БЭСМ выконвае розныя дзеянні. Пры яе дапамозе можна рабіць аблічэнні працы ядзернага рэактара, вызначыць рух ракеты, апісаць працу машын у вялікай фабрыцы, прадсказаць пагоду.

Савецкая БЭСМ з'яўляецца цыфровай машынай. У вялікіх пытаннях, якія вырашае машына, колькасць матэматычных дзеянняў сягае да 10 мільёнаў.

БЭСМ — гэта не апошняе дасягненне сучаснай навукі і тэхнікі. Паяўляюцца і будуць паяўляцца ўсё новыя машыны - мазгі — больш дасканалыя. І яны вызваляць чалавека ад цяжкай фізічнай працы і нудных аблічэнняў.

Не маюць рацыі тыя, хто прадсказвае страшныя перспектывы чалавецтву ў выніку, калі машыны заменяць людзей. Будзем спакойны. Няма і не будзе машыны, якая б магла замяняць чалавека ў тым, што найбольш чалавечае — у мысленні. Машына не патрапіць ніколі стварыць чагось лепшага ад сябе. Не патрапіць самастойна змагацца з прыродай.

Чалавек заўсёды будзе панам машыны, а аўтаматызацыя толькі ўзмоцніць тыя сілы, якія ёсць у чалавеку.

## ЖАНЧЫНЫ АФГАНІСТАНА



Афганістан — краіна мусульманская. Афганцы дакладна выконваюць усе запаведзі карана. Ён моліцца пяць разоў у дзень, і дзе б не застаў яго час намаза (малітвы) ён скідае абутак, расцілае кавёрчык (носіць з сабой) і стае на калені. Выконваючы запаведзі карана, афганец не п'е віна, хоць на афганскай зямлі растуць вельмі добрыя гатункі вінаграду. Ды ў першую чаргу ўлада карана адбіваецца на жыцці жанчыны.

Жанчын у Кабуле (сталіца Афганістана), напрыклад, не ўбачым. Гэта значыць не ўбачым жаночых твараў: яны скрыты пад чадрой. Амаль увесь свой час афганскія жанчыны праводзяць у зорнай палавіне дома, дзе займаюцца дамовай гаспадаркай. У грамадскім жыцці краіны жанчыны не прымаюць удзелу.

У Афганістане яшчэ і цяпер спатыкаецца мнагажэнства. Часта можна бачыць, як у люксусовым аўтамабіле, якім кіруе прыгожа адзеты ў еўрапейскі касцюм афганец, сядзіць 5—6 захутаных жаночых фігур. Гэта вывозіць на прагулку сваю сям'ю які-небудзь багаты купец.

Многія афганцы ізноў зусім не маюць жонак. Бо ж за жонку трэба заплаціць выкуп, а не кожны можа сабраць даволі вялікую суму грошай.



Для гаспадыні




Тараканы і прусы — агідныя авады і шкодныя. А бываюць жа яны даволі часта яшчэ ў нашых дамах, асабліва ў кухнях і каморах. Тараканы найчасцей жывуць там, дзе ёсць для іх ежа, а ядзяць незабяспечаныя прадукты, розныя адпадкі ежы.

Тараканы рознымі спосабамі могуць быць занесены ў дом і зажываюцца пераважна ў шпарах пад падлогай і дзюрах. Уночы выходзяць «на паляванне». І вельмі ахвотна з'ядаюць рэшткі ежы, раскіданай на стале, падлозе, печы. Каб пазбыцца тараканаў, трэба дбаць аб тое, каб яны не мелі чаго есці (не трэба класці для таракана ў печ, ці другое месца буханкі хлеба, як робяць некаторыя гаспадыні. Гэта зразумела не знішчыць тараканаў, а наадварот, пакуль яны з'ядуць буханак хлеба — размножацца ў некалькі разоў. Асабліва на нач трэба хаваць і выпратаць усе месцы з адпадкаў ежы.

Трэба таксама раздмухаць «Azotox» у парашку на падлозе, асабліва паблізу шпар; шпары зрэшты трэба чым хутчэй закітаваць, і ўсе дзіркі ў падлозе ці сцяне заляпіць цэментам або гіпсам.

## 2,5 кг жалеза ў жалудку



Шведскія хірургі з горада Лінкупінг не могуць зразумець, якім цудам чалавек з 2,5 кг. жалеза ў жалудку мог жыць. 50 год як бы ніколі нічога і толькі... адсутнасць апетыту змусіла яго пайсці да лекара.

Была праведзена аперацыя і вось... з жалудка пацыента лекары дасталі 2300 такіх экспанатаў як гвоздзі, шрубкі, манеты, ключы і г. д. — бачыце іх на здымку. Пацыентам заняліся псіхіятры.

## ТАРНАДО — ВІХОР

**Было гэта 10 лютага 1959 года. Над спакойна спаўшым Сент-Луісам (амерыканскі горад у штаце Міссуры — ЗША) павіслі касматыя свінцовыя хмары. А роўна ў 2 гадзіны ночы страшны віхор, нібы казачны дракон, пранёсся над горадам, забіраючы ў сваё горла ўсё, што папала. Віхор суправаджаўся яскравым зарывам. Здавалася, нібы ў неба паднялося тысячы ракет, якія асвятлялі «поле бітвы».**

**Праз некалькі гадзін там, дзе праходзіў буран, стаялі перавернутыя аўтамабілі, разбураныя дамы.**

**19 забітых і 265 раненых — такія ахвяры стыхіі.**

**Вінавайцам быў т а р н а д о. Гэта слова іспанскае і ім называюцца ў ЗША смерчы — віхры, якія паўстаюць у воблаках перад бурай. Колькасць смерчаў у ЗША бывае ад 100 да 200 ў год.**





Толькі для закаханых




Пазнаёміўся я з адной дзяўчынай. Спадабалася мне яна вельмі. Калі я другі раз хацеў спаткацца з ёю — не згадзілася. Я хацеў забыць пра яе, ды не мог. Ведаў, што кахаю яе. Аднойчы папаў на забаву, на якой была і яна. Пры белым танго папрасіла мяне да танца. Размаўлялі мы свабодна, але я не пасмеў успомніць пра мінулае. Забава закончылася і трэба было растацца. Незадоўга пасля я ад сяброўак даведаўся дрэнных рэчаў пра яе. Але ўсёроўна не магу яе забыць. Парадзь, Сэрцайка, што рабіць?

В. З. з Т.

Надта ж ты ўжо нясмелы. Дзяўчына першая просіць да танца, значыць аднак цікавішца. І навошта слухаць аб ёй плёткі. Лепш адважна падыйсці і паразмаўляць з ёй самой. Рэч не новая, што сяброўкі патрапяць нагаварыць замнога. Мая рада, калі сапраўды кахаеш дзяўчыну, павінен ёй аб гэтым сказаць.

Сэрцайка.

